# АТЛАС

**9 клас**

## ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

**канец XVIII – пачатак XX ст.**





№ 1.

Наша Доля

первая белорусская газэта для вескового и местового рабочего народу

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литерами

Вильня, Виленская вуліца 32.

Наш палетак.



УДК 94(476)(075.3=161.3)(084.4)
ББК 63.3(4Беи)я721
Г 51

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## канец XVIII – пачатак XX ст.

## Атлас

**Вучэбны дапаможнік для 9 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання**

***Дапушчана Міністэрствам адукацыі
Рэспублікі Беларусь***

Атлас складзены і падрыхтаваны да друку
Рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам „Белкартаграфія“
Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь у 2006 г.,
перагледжаны і дапоўнены ў 2015 г.

Спецыяльны змест атласа распрацавалі:
А. Г. Каханоўскі, А. М. Лукашэвіч



**ISBN 978-985-508-406-9**

# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫ ПАДЗЕЛ БЕЛАРУСІ ў пачатку XIX ст.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі ў Беларусі быў уведзены новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, які ў канцы XVIII ст. неаднаразова змяняўся. У 1801 г. у сувязі з новым адміністрацыйным падзелам Расійскай імперыі на тэрыторыі Беларусі было створана пяць губерняў: Віленская, Віцебская, Гродзенская, Мінская, Магілёўская, якія падзяляліся на паветы. У 1808 г. з тэрыторый, якія адышлі да Расійскай імперыі паводле Тыльзіцкага міру 1807 г., была ўтворана Беластоцкая вобласць. У першай чвэрці XIX ст. беларускія губерні ўваходзілі ў склад Беларускага, Віленскага і Кіеўскага ваенных губернатарстваў, а затым – генерал-губернатарстваў (існавалі ў 1772–1796 і 1822–1912 гг.).




Партрэт З. Я. Карнеева. Мастак У. Л. Баравікоўскі

# БЕЛАРУСЬ у час вайны 1812 г.

## НАШЭСЦЕ НАПАЛЕОНАЎСКАЙ АРМІІ (чэрвень – кастрычнік 1812 г.)



Напалеон

Разгортванне армій на пачатак вайны
- напалеонаўскай
- расійскай

Умацаваныя лагеры расійскіх войскаў

Наступленне напалеонаўскіх войскаў

Адступленне расійскіх войскаў

Напрамкі ўдараў расійскіх войскаў

22.VII Месца і дата злучэння расійскіх армій

Раёны дзеяннняў партызанскіх атрадаў

Крэпасці

22.X Месцы і даты бітваў

**Маштаб 1:8 000 000**

## ВЫГНАННЕ НАПАЛЕОНАЎСКАЙ АРМІІ (кастрычнік – снежань 1812 г.)



Аляксандр I

Сканцэнтраванне войскаў
- расійскіх
- напалеонаўскіх

Праследаванне войскаў напалеонаўскай арміі
- галоўнымі сіламі расійскай арміі
- асобнымі атрадамі расійскай арміі

Адступленне напалеонаўскай арміі

23.XI Ад'езд Напалеона з арміі ў Парыж

Вайна 1812 г. была цяжкім выпрабаваннем для насельніцтва Беларусі. Тут адбыліся жорсткія бітвы (каля вёсак Салтанаўка, Астроўна, Клясціцы, Брылі, Студзёнка і інш.). 19 чэрвеня (1 ліпеня) у Вільні была створана Камісія часовага кіравання (Часовы ўрад) Вялікага Княства Літоўскага, у юрысдыкцыю якой былі перададзены Віленская, Гродзенская, Мінская губерні і Беластоцкая вобласць. На тэрыторыі Віцебскай і Магілёўскай губерняў было ўведзена асобае французскае кіраванне. Ад створанай адміністрацыі французскія ўлады патрабавалі забеспячэння ўсім неабходным сваёй арміі. Рэальнай уладай валодалі французскія чыноўнікі. Створаныя ў 1812 г. вайсковыя часткі ВКЛ у большасці загінулі ў баях. У час вайны Беларусь панесла вялізныя матэрыяльныя і значныя людскія страты.




**Межы ў 1812 г.**
- дзяржаў
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Вялікага Княства Літоўскага
- асобных генерал-губернатарстваў
- зоны кантролю французскіх войскаў
- Тэрыторыі паветаў беларускіх губерняў, якія ў 1812 г. кантралявалі расійскія войскі

**Маштаб 1:4 000 000**

**Населеныя пункты**
- МАГІЛЁЎ — Цэнтры губерняў і вобласці Расійскай імперыі
- РЭЧЫЦА — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі
- Нясвіж — Іншыя населеныя пункты
- ВІЛЬНЯ — Сталіца ВКЛ
- МІНСК — Цэнтры дэпартаментаў ВКЛ
- ВІЦЕБСК — Цэнтры асобных генерал-губернатарстваў
- Крэпасць
- 19.VI (1.VII) — Месца і дата стварэння Камісіі часовага кіравання ВКЛ
- ЭРТЭЛЬ — Карпусы расійскай арміі
- ВІКТОР — Карпусы Вялікай арміі

- Камунікацыя Вялікай арміі* (з 7(19).VIII 1812)

* Шляхі зносін з размешчанымі на іх гарнізонамі, складамі, шпіталямі, на якіх ажыццяўлялася сувязь армейскіх карпусоў з тыламі і паміж сабой

**Месцы фарміравання войскаў ВКЛ**
- Пяхотныя палкі
- Кавалерыйскія палкі
- Конна-артылерыйская рота Р. Тызенгаўза
- Егерскія батальёны
- Татарскі эскадрон
- Гвардзейскі уланскі полк Я. Канопкі
- 8(20).X — Месцы і даты баёў, у якіх прымалі ўдзел узброеныя сілы ВКЛ

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ РУХ у 20–50-я гады XIX ст. ПАЎСТАННЕ 1830–1831 гг. НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ

У 20–50-я гады XIX ст. на тэрыторыі Беларусі значнае пашырэнне атрымаў вучнёўскі, маладзёжны рух (таварыствы філаматаў, філарэтаў і інш.), які ў пераважнай ступені быў звязаны з задачамі польскага нацыянальна-вызваленчага руху. Той жа характар па сваіх мэтах насіла паўстанне 1830–1831 гг., пасля паражэння якога адбыліся кардынальныя змены ў расійскай урадавай палітыцы на тэрыторыі Беларусі. Асобнае месца ў вызваленчай барацьбе на тэрыторыі Беларусі заняў дзекабрысцкі рух, шэраг прадстаўнікоў якога былі мясцовымі ўраджэнцамі. У 1836 г. Ф. Савіч заснаваў „Дэмакратычнае таварыства", якое прадоўжыла традыцыі філаматаў і дзекабрыстаў. У 1846–1849 гг. у Беларусі дзейнічала тайная арганізацыя „Саюз свабодных братоў", члены якой вялі прапаганду сярод салдат і рыхтавалі паўстанне.

Эмілія Плятэр

Партрэт Т. Зана. Мастак В. Ванькові́ч

Партрэт М. М. Мураўёва. Мастак П. Ф. Сакалоў

Маштаб 1:5 000 000

- 1820 Месцы і гады дзеяння тайных таварыстваў
- 1821 „Мінскі варыянт" канстытуцыі М. М. Мураўёва
- 1823 Бабруйскі план дзекабрыстаў
- 1825 Выступленне „ваенных сяброў"
- 1826 Выступленне „Таварыства аб'яднаных славян"
- 29.XI 1830 Месца і дата пачатку паўстання
- Часовы ўрад
- Віленскі цэнтральны паўстанцкі камітэт
- Цэнтры паўстання
- Тэрыторыі Расійскай імперыі, якія былі ахоплены паўстаннем
- Рэйд генералаў Д. Хлапоўскага і А. Гелгуда да Вільні
- Адступленне паўстанцаў
- Дзеянні галоўных сіл расійскіх войскаў
- Месцы і даты баёў
  - 25.II 1831 з перамогай паўстанцаў
  - 19.VI 1831 з перамогай расійскіх войскаў
- 8.IX 1831 Капітуляцыя Варшавы
- 1831 Месцы раззбраення атрадаў паўстанцаў
- Дзейнасць партызанскага атрада М. Валовіча (сакавік–май 1833 г.)
- 1840 Гады адмены дзеяння Статута ВКЛ 1588 г.
- Мяжа Расійскай імперыі з 1815 г.
- Межы губерняў Расійскай імперыі да 1842 г.
- 1839 Полацкі царкоўны сабор (прыняў рашэнне аб далучэнні ўніяцкай царквы да праваслаўнай)



Міцкевіч на скале Аю-Даг. Мастак В. Ваньковіч

# ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСІ ў першай палове XIX ст.

У першай палове XIX ст. у Беларусі адбываліся працэсы, якія прывялі да распаду феадальна-прыгонніцкай сістэмы і пашырэння новых капіталістычных адносін. Аб гэтым сведчыла развіццё прамысловасці, перш за ўсё павелічэнне колькасці мануфактур, заснаванне першых фабрык і заводаў, пашырэнне выкарыстання на прадпрыемствах вольнанаёмнай працы. Сельская гаспадарка ўсё больш уцягвалася ў рыначныя адносіны, павялічвалася колькасць ворных земляў. Для пераадолення негатыўнага ўплыву прыгонніцкай сістэмы дзяржава вымушана была праводзіць больш гнуткую сацыяльна-эканамічную палітыку, адным з напрамкаў якой стала правядзенне рэформ у дзяржаўнай і памешчыцкай вёсцы па ініцыятыве П. Д. Кісялёва.




Партрэт П. Д. Кісялёва. Мастак Ф. Кругер

„Жняя". К. Русецкі

**Прамысловасць**

- Найбуйнейшае металаапрацоўчае прадпрыемства
- Першыя фабрыкі (суконныя)
- Буйныя цукровыя прадпрыемствы
- * Кірмашы
- Збожжа — Вываз тавараў з Беларусі
- Соль — Увоз тавараў у Беларусь

**Сельская гаспадарка (рэформа П. Д. Кісялёва)**

Павелічэнне зямельных надзелаў дзяржаўных сялян (у працэнтах)

85 | 30–36 | 15

Змяншэнне павіннасцей дзяржаўных сялян (у працэнтах)

63–65 | 29–52

1847–1848, 1852, 1855 — Увядзенне інвентарных правіл у губернях згодна з асобнымі „Палажэннямі" (па гадах)

Тэрыторыі Расійскай імперыі, дзе прыгоннае права было адменена ў пачатку XIX ст.

Межы дадзены на сярэдзіну XIX ст.

**Маштаб 1:4 000 000**

# ШЛЯХІ ЗНОСІН БЕЛАРУСІ ў першай палове XIX ст.

Сацыяльна-эканамічнаму развіццю Беларусі, пашырэнню ўнутранага і знешняга гандлю садзейнічала ўдасканаленне шляхоў зносін. Вялікае значэнне мелі рачныя шляхі, Бярэзінская водная сістэма, Дняпроўска-Бугскі, Аўгустоўскі, Агінскі каналы, якія былі рэканструяваны ці пабудаваны ў першай палове XIX ст. У гэты час у Беларусі было каля 85 прыстаняў. Змяніліся да лепшага паштовыя грунтавыя тракты, якія выконвалі ролю асноўных унутраных шляхоў зносін. У 40–50-я гады XIX ст. праз Беларусь прайшла Маскоўска-Варшаўская шаша. Праз Беларусь правозіліся транзітныя грузы з Заходняй Еўропы ў цэнтральныя расійскія губерні і наадварот – на заходнееўрапейскія рынкі. У вывазе з Беларусі пераважалі лён, збожжа, лес і інш.




Агінскі канал

Дняпроўска-Бугскі канал

# АДУКАЦЫЯ БЕЛАРУСІ ў першай палове XIX ст.




У выніку рэформы сістэмы адукацыі ў 1803 г. была створана Віленская навучальная акруга, цэнтрам якой стаў Віленскі ўніверсітэт. Адміністрацыі акругі былі падпарадкаваны школы беларускіх губерняў. Навучанне ў іх вялося пераважна на польскай мове. Пасля рэарганізацыі акругі і паўстання 1830–1831 гг. выкладанне паступова было пераведзена на рускую мову. У першай палове XIX ст. на тэрыторыі Беларусі значнымі цэнтрамі адукацыі выступалі таксама Полацкая езуіцкая акадэмія і Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Сістэма адукацыі была пераважна бессаслоўнай, але маладаступнай для сялянства і гарадскіх нізоў.

Межы дадзены на 1815 г.

**Маштаб 1:4 000 000**

Князь А. Чартарыйскі. Мастак І. (Ю.) Аляшкевіч

**Размеркаванне навучальных устаноў па ведамствах**
(на 1832 г., па губернях, у працэнтах)




**Колькасць выкладчыкаў і навучэнцаў у навучальных установах**
(на 1832 г., па губернях, чалавек)



| | Выкладчыкі | Навучэнцы |
|---|---|---|
| Беластоцкая вобласць | 30 | 596 |
| Віленская губерня | 477 | 5922 |
| Віцебская губерня | 196 | 3414 |
| Гродзенская губерня | 156 | 1907 |
| Магілёўская губерня | 132 | 2073 |
| Мінская губерня | 203 | 2517 |

41 — Агульная колькасць навучальных устаноў

384 — Колькасць жыхароў губерні, на якіх прыходзіцца 1 вучань

1 мм даўжыні слупка – 50 чалавек

# МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРА БЕЛАРУСІ ў першай палове XIX ст.

У першай палове XIX ст. адбываліся працэсы станаўлення новай беларускай літаратурнай мовы і актывізацыі мясцовага літаратурнага жыцця. Пачынальнікамі новай беларускай літаратуры выступілі В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Баршчэўскі, У. Сыракомля і інш. Для развіцця тагачаснага мастацтва характэрным было спалучэнне класіцызму і рамантызму. Помнікамі архітэктуры сталі палац-сядзіба Румянцавых–Паскевічаў і Кафедральны сабор у імя Святых апосталаў Пятра і Паўла ў Гомелі, губернатарскі палац у Віцебску і інш. У Бабруйску і Брэсце былі пабудаваны крэпасці. У станаўленні беларускага тэатра вялікую ролю адыграў аматарскі гурток В. Дуніна-Марцінкевіча. Сярод мастакоў найбольш вядомымі былі І. (Ю.) Аляшкевіч, І. Хруцкі, В. Ваньковіч.




„Кветкі і садавіна". І. Хруцкі

Кафедральны сабор у імя Святых апосталаў Пятра і Паўла. Гомель

Касцёл Святой Тэрэзы. Шчучын

С. Манюшка. Эстамп А. Лафоса

Палац-сядзіба Румянцавых–Паскевічаў. Гомель

Перыядычныя выданні
- дзяржаўныя
- пры навучальных установах

Бібліятэкі
- пры навучальных установах
- публічныя
- прыватныя

Тэатры
- беларускі (аматарскі тэатр В. Дуніна-Марцінкевіча)
- рускія
- польскія

Музей старажытнасцей

Мастацкія школы

ВІЛЬНЯ Цэнтры беларусазнаўства

Помнікі архітэктуры ў стылі класіцызму, якія былі пабудаваны ў першай палове XIX ст.

Крэпасці, якія былі пабудаваны ў першай палове XIX ст.

Межы дадзены на 1815 г.

**Маштаб 1:4 000 000**

# АДМЕНА ПРЫГОННАГА ПРАВА

**Зямельныя надзелы памешчыцкіх сялян паводле „Мясцовых палажэнняў“ 1861 г.**

Паводле „Вялікарасійскіх палажэнняў“
- першая (нечарназёмная) паласа з душавым надзелам 1,0–7,0 дзесяцін
- другая (чарназёмная) паласа з душавым надзелам 0,9–6,0 дзесяцін
- трэцяя (сцяпная) паласа з душавым надзелам 3,0–12,0 дзесяцін

Паводле „Мясцовага палажэння“ для Левабярэжнай Украіны
- з душавым надзелам 1,4–4,0 дзесяцін

Паводле „Мясцовага палажэння“ для Правабярэжнай Украіны
- у сялян заставаліся ўсе землі, якімі яны карысталіся паводле інвентарных правіл 1847 г. і 1848 г.

Паводле „Мясцовага палажэння“ для Беларусі і Літвы
- у сялян заставаліся ўсе землі, якімі яны карысталіся да 19 лютага 1861 г.


Генерал-губернатар У. І. Назімаў. Літаграфія А. Лафоса з „Віленскага альбома“

25° на ўсход ад Грынвіча
30°
35°
55°
50°
РЫГА
МІТАВА
Дзвіна
Дайгава
БАЛТЫЙСКАЕ МОРА
1.III 1863
2.XI 1863
ВІЦЕБСК
МАСКВА
Р А С І Й С К А Я
І М П Е Р Ы Я
Нёман
Кёнігсберг
КОЎНА
20.XI 1857
1.III 1863
ВІЛЬНЯ
СМАЛЕНСК
КАЛУГА
ТУЛА
КАР. ПРУСІЯ
ГРОДНА
1.III 1863
МІНСК
2.XI 1863
МАГІЛЁЎ
1.III 1863
АРОЛ
ВАРШАВА
Буг
Прыпяць
КУРСК
ЧАРНІГАЎ
Дзясна
Сож
Днепр
Бярэзіна
Вілія
Ловаць
Зах. Дзвіна
Волга
Ока
Сейм
Псёл
Прыпяць
Случ
Гарынь
Зах. Буг
ЖЫТОМІР
КІЕЎ
ХАРКАЎ
ПАЛТАВА
Днепр
Днястр
Львоў
Паўдн. Буг
АЎСТРЫЙСКАЯ ІМПЕРЫЯ


„Сяляне-ліцвіны“. Ф. Смуглевіч

- 20.XI 1857 — Рэскрыпт Аляксандра II на імя віленскага генерал-губернатара У. І. Назімава. Пачатак падрыхтоўкі сялянскай рэформы
- 1.III 1863 — Указ аб адмене з 1.V 1863 г. часоваабавязанага становішча сялян у Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губернях і ў чатырох паветах Віцебскай губерні і памяншэнні на 20% выкупных плацяжоў
- 2.XI 1863 — Указ аб адмене з 1.I 1864 г. часоваабавязанага становішча сялян у Магілёўскай і ў васьмі паветах Віцебскай губерні і памяншэнні на 20% выкупных плацяжоў
- Мяжа тэрыторый, дзе паводле закону ад 16.V 1867 г. дзяржаўныя сяляне былі пераведзены на абавязковы выкуп (залічваліся ў разрад сялян-уласнікаў)

Тэрыторыі губерняў, у якіх сялянскія надзелы былі павялічаны (у працэнтах)
- да 20
- больш за 20

Тэрыторыі губерняў, у якіх сялянскія надзелы былі паменшаны

Тэрыторыі з пераважным захаваннем
- абшчыннага сялянскага землекарыстання
- падворнага сялянскага землекарыстання

Тэрыторыі Расійскай імперыі, дзе прыгоннае права было адменена ў пачатку XIX ст.

**Маштаб 1:6 000 000**




Медалі ў гонар адмены прыгоннага права

# ПАЎСТАННЕ 1863–1864 гг. У БЕЛАРУСІ

Лідары паўстання 1863–1864 гг. імкнуліся аднавіць былую Рэч Паспалітую ў межах 1772 г. Сярод удзельнікаў паўстання пераважала дробная і беззямельная шляхта, але ў яго складзе былі таксама вучнёўская і студэнцкая моладзь, рамеснікі, сяляне, афіцэры. Напярэдадні паўстання ў нацыянальным руху аформіліся дзве палітычныя групоўкі: „белыя“ і „чырвоныя“. Першыя свае надзеі звязвалі з дыпламатычным ціскам на Расійскую імперыю з боку заходнееўрапейскіх дзяржаў. „Чырвоныя“ меркавалі аднавіць Рэч Паспалітую праз узброеную барацьбу. Лідарам іх рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні ў Беларусі і Літве выступіў К. Каліноўскі. Паўстанне пакінула значны след у далейшым грамадска-палітычным развіцці Беларусі, прывяло да істотных змен ва ўмовах правядзення аграрнай і іншых буржуазных рэформ.


„К. Каліноўскі і В. Урублеўскі праводзяць смотр паўстанцаў“. Мастак П. Сергіевіч


К. Каліноўскі. Здымак


Медаль, прысвечаны паўстанню 1863 г.

- Цэнтральны нацыянальны камітэт (ЦНК, лета 1862 г.)
- Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК, лета 1862 г.)
- 22.I 1863 — Выданне Часовым нацыянальным урадам „Маніфеста“ аб абвяшчэнні паўстання і аграрных дэкрэтаў
- 1.II 1863 — Маніфест ЛПК аб падтрымцы паўстання, пачатага ў Польшчы
- Выданне газеты „Мужыцкая праўда“ і яе нумары
- 11.III 1863 — Пераварот „белых“ – расфарміраванне Часовага правінцыяльнага ўрада Літвы і Беларусі на чале з К. Каліноўскім і замена яго Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы
- 31.VII 1863, 22.VIII 1863 — Перадача К. Каліноўскаму паўнамоцтваў старшыні Выканаўчага аддзела Літвы і камісара Варшаўскага ўрада ў Вільні
- Тэрыторыі, на якіх паўстанцкія атрады пратрымаліся да 1864 г.
- 3.VI 1863 — Месцы і даты найбольш значных баёў
- Месцы стычак паўстанцаў з царскімі войскамі
- Чыгунка і месцы найбольш значных дыверсій
- Шляхі папаўнення атрадаў паўстанцаў
- Мяжа тэрыторый, якія ў час паўстання былі падпарадкаваны віленскаму генерал-губернатару М. М. Мураўёву
- Горкі — Населеныя пункты, у якіх былі закрыты навучальныя ўстановы ў сувязі з паўстаннем
- 22.III 1864 — Месца і дата пакарання смерцю К. Каліноўскага

**Маштаб 1:5 000 000**

# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫ ПАДЗЕЛ БЕЛАРУСІ
## у другой палове XIX – пачатку XX ст.

У адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. прынцыповых змен не адбылося. З 1861 г. паветы былі падзелены на валасці. У Магілёўскай губерні з частак Аршанскага і ліквідаванага Копыскага створаны Горацкі павет. У 1866 г. быў скасаваны Суражскі павет Віцебскай губерні. На працягу XIX ст. на тэрыторыі Беларусі ствараліся надзвычайныя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі – генерал-губернатарствы. У 1856 г. было скасавана Віцебскае, Магілёўскае і Смаленскае генерал-губернатарства, Віленскае існавала да 1912 г. У час паўстання 1863–1864 гг. усе губерні Беларусі былі падпарадкаваны віленскаму генерал-губернатару.



# РАЗВІЦЦЁ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ БЕЛАРУСІ І СЯЛЯНСКІ РУХ У ПАРЭФОРМЕННЫ ПЕРЫЯД (60–90-я гады XIX ст.)

У 60–90-я гады XIX ст. сельская гаспадарка па-ранейшаму заставалася асновай эканомікі Беларусі. Пасля рэформы 1861 г. пераход ад прыгонніцкай да капіталістычнай сістэмы гаспадарання адбыўся не адразу, паступова. Спачатку пераважала пераходная адпрацовачная сістэма. Найбольшае распаўсюджанне яна мела ў Віцебскай і Магілёўскай губернях. Да капіталістычнай сістэмы гаспадарання больш хутка здолелі перайсці памешчыкі Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў. Іх гаспадаркі паступова набывалі прадпрымальніцкі характар. У выніку аграрнага крызісу 80-х гадоў XIX ст. адбываецца змена рыначнай спецыялізацыі гаспадарак з зерневай на мяса-малочную. Малазямелле, непасільныя падаткі, беднасць былі спадарожнікамі пераважнай часткі сялянства. Яны сталі асноўнымі прычынамі сялянскага руху, які вызначаўся стыхійнасцю і неарганізаванасцю.




„Наём працаўнікоў“. К. Альхімовіч

**Размеркаванне зямельных угоддзяў па губернях** (на 1887 г., у працэнтах)

- Ворныя землі
- Сенажаці
- Лясныя ўгоддзі
- Іншыя землі прыгодныя (сядзібы, агароды, сады і інш.)
- непрыгодныя (балоты, пяскі і інш.)

**Дынаміка сялянскага руху** (па гадах, па колькасці выступленняў)

| Гады | Усяго выступленняў | супраць памешчыкаў і звязаныя з пазямельнымі адносінамі | супраць царскай адміністрацыі і паліцыі |
|---|---|---|---|
| 1864–1875 | 218 | 110 | 101 |
| 1876–1882 | 204 | 132 | 70 |
| 1883–1894 | 375 | 253 | 116 |
| 1895–1900 | 181 | 125 | 50 |

Усяго выступленняў
у тым ліку
супраць памешчыкаў і звязаныя з пазямельнымі адносінамі
супраць царскай адміністрацыі і паліцыі

Заўвага. Выступленні іншага характару ў дадзеную дыяграму не ўключаны па прычыне іх невялікай колькасці

„Стары пастух“. Н. Сіліванович

# РАЗВІЦЦЁ ПРАМЫСЛОВАСЦІ І РАБОЧЫ РУХ У БЕЛАРУСІ (1861–1900 гг.)

У 60–90-я гады XIX ст. прамысловасць Беларусі захавала сваю спецыялізацыю па перапрацоўцы мясцовай сельскагаспадарчай, лясной і мінеральнай сыравіны. На працягу першых паслярэформенных дзесяцігоддзяў прамысловы рост быў запаволены, па ўсіх паказчыках пераважала дробная вытворчасць. У 80–90-я гады XIX ст. значна паскорыўся працэс развіцця фабрычна-заводскай прамысловасці Беларусі. З павелічэннем колькасці прадпрыемстваў рос колькасна пралетарыят, становішча якога вызначалі мізэрныя заробкі і штрафы, цяжкія ўмовы працы. Гэта прымушала рабочых пратэставаць і змагацца за чалавечыя ўмовы існавання.

**Суадносіны вырабу прадукцыі ў 1900 г.**
(па вытворчасці, у працэнтах)




**Дынаміка рабочага руху**
(па гадах, па колькасці выступленняў)





Будынак банка. Мінск


Казённы вінны склад. Баранавічы


Бочкападобны паравоз серыі Д. 1874 г.

**Прамысловасць**

Цэнтры фабрычна-заводскай вытворчасці
- металаапрацоўчыя прадпрыемствы
- суднабудаўнічы завод
- мэблевая фабрыка
- суконныя фабрыкі
- папяровыя фабрыкі
- запалкавыя фабрыкі
- тытунёвая фабрыка
- шавецка-шпілечная фабрыка
- алоўкавая фабрыка
- фабрыка акуляраў і аптэчных прылад

Цэнтры дробнатаварнай (рамеснай) і мануфактурнай вытворчасці
- гарбарныя вырабы
- выраб кафлі
- цукровыя заводы

**Банкі**
- Аддзяленні Дзяржаўнага банка Расіі
- Аддзяленні іпатэчных дзяржаўных банкаў Расіі
- Прыватныя

**Рабочы рух**
- ДРЫСА — Хваляванні рабочых на будаўніцтве чыгункі (1864–1884 гг.)
- Стачкі (1876–1900 гг.)
- МІНСК — Палітычныя выступленні рабочых (1889–1900 гг.)
- Чыгункі
- Шашэйныя дарогі

**Маштаб 1:4 000 000**

# ГРАМАДСКІ РУХ У БЕЛАРУСІ ў другой палове XIX ст.

У грамадскім руху Беларусі ў другой палове XIX ст. значны след пакінула дзейнасць народніцкіх гурткоў, палітычная праца сацыял-дэмакратычных арганізацый. Нягледзячы на шматлікія ўрадавыя абмежаванні, разнастайнай па форме і змесце стала ў гэты час дзейнасць легальных грамадскіх аб'яднанняў, многія з якіх прытрымліваліся ліберальных пазіцый. У канцы XIX – пачатку XX ст. арганізацыйна аформіўся беларускі нацыянальны рух. Першай арганізацыяй, якая заявіла аб самастойных яго задачах, стала народніцкая група „Гоман“, якая дзейнічала ў Санкт-Пецярбургу (1884 г.). У 1903 г. аформілася першая нацыянальная палітычная партыя – Беларуская сацыялістычная грамада.


М. Судзілоўскі. Здымак

**Сацыялістычны рух**
- Народніцкія гурткі (1870-я гг.)
- Сацыял-дэмакратычныя гурткі (1880–90-я гг.)
- Сацыял-дэмакратычныя арганізацыі (1890-я гг.)
- Сацыял-рэвалюцыйныя гурткі
- IX 1897 Стварэнне Бунда
- 1–3.III 1898 I з'езд РСДРП

**Маштаб 1:4 000 000**

**Ліберальны рух**
- Таварыствы
- Прыватныя гурткі

**Беларускі нацыянальны рух**
- Асветніцкі гурток братоў Івана і Антона Луцкевічаў
- 1903 Утварэнне Беларускай сацыялістычнай грамады
- Легальныя грамадскія арганізацыі


ГОМОН

1884

Першы нумар нелегальнага часопіса „Гоман“


А. Уласаў з братамі І. і А. Луцкевічамі. Здымак

# РЭВАЛЮЦЫЯ 1905–1907 гг. У БЕЛАРУСІ

Шматлікія мітынгі, выступленні, стачкі ахапілі тэрыторыю Беларусі ў перыяд рэвалюцыйных падзей 1905–1907 гг. Большасцю іх кіравалі арганізацыі Бунда, РСДРП, эсэраў. Арганізатарам і кіраўніком беларускага нацыянальнага руху выступала Беларуская сацыялістычная грамада. Неафіцыйным органам яе сталі газеты „Наша Доля“ і „Наша Ніва“. У перыяд рэвалюцыі адбылася дыферэнцыяцыя грамадска-палітычнага жыцця. У гэты час арганізацыйна аформіліся новыя палітычныя партыі – Саюз 17 кастрычніка, кадэты, Канстытуцыйна-каталіцкая партыя Літвы і Беларусі. З'явіліся новыя грамадска-культурныя арганізацыі, прайшоў з'езд настаўнікаў.



„Сцэна з рэвалюцыі 1905 г. у Вільні“. І. Трутнёў

**Рэвалюцыйныя падзеі 1905–1907 гг.**

- Гарады, ахопленыя
- Кастрычніцкай усерасійскай палітычнай стачкай 1905 г.
- Снежаньскай усерасійскай палітычнай стачкай 1905 г.
- Чыгункі, ахопленыя стачкамі ў 1905–1907 гг.
- Выступленні салдат
- 18.X 1905 — Расстрэлы дэманстрацый і ўзброеныя сутыкненні працоўных з паліцыяй і войскамі (з датамі)
- Паветы, у якіх адбываліся ўзброеныя сутыкненні сялян з паліцыяй
- Месцы яўрэйскіх пагромаў
- Выданне газет (1906 г.): „Наша Ніва“, „Наша Доля“

**Палітычныя партыі і арганізацыі ў час рэвалюцыі 1905—1907 гг.**

- МАЗЫР — Групы РСДРП
- ВІЛЬНЯ — Групы Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў
- Саюз 17 кастрычніка
- Кадэцкія арганізацыі
- Канстытуцыйна-каталіцкая партыя Літвы і Беларусі
- ОРША — Кансерватыўныя арганізацыі
- МІНСК — Найбольш актыўныя арганізацыі Бунда
- Яўрэйская незалежная рабочая партыя
- З'езд настаўнікаў Мінскай губерні (нелегальны)

Маштаб 1:4 000 000

## СТАЛЫПІНСКІЯ РЭФОРМЫ Ў БЕЛАРУСІ

Сталыпінская аграрная рэформа служыла ўмацаванню капіталістычных адносін ў вёсцы, ліквідацыі феадальна-прыгонніцкіх перажыткаў. Адна з асноўных яе мэт – разбурэнне сялянскай абшчыны. Яна адсутнічала на большай частцы тэрыторыі Беларусі, а там, дзе абшчына захоўвалася, працэс знікнення яе адбываўся хутчэй, чым у іншых раёнах Расійскай імперыі. Больш інтэнсіўна ў Беларусі ствараліся хутарскія гаспадаркі. Сталыпінская рэформа прадугледжвала таксама арганізацыю перасялення сялян у азіяцкую частку Расіі. У Беларусі атрымала пашырэнне адыходніцтва ў прамысловыя цэнтры Расійскай імперыі, а таксама за яе межы. У 1911 г. па ініцыятыве П. А. Сталыпіна на большай частцы тэрыторыі Беларусі (за выключэннем Віленскай і Гродзенскай губерняў) была праведзена земская рэформа.

„Зямля". Ф. Рушчыц

П. А. Сталыпін. Здымак

Доля сялянскіх гаспадарак, якія ў 1907–1915 гг. выйшлі з абшчын і перасяліліся на хутары і адрубы (у працэнтах)




Раёны традыцыйнага хутарскага расселення

Губерні, у якіх у 1911 г. былі ўведзены земствы

Маштаб 1:6 000 000



Срэбны медаль Віленскага сельскагаспадарчага таварыства

## АДЫХОДНІЦТВА З БЕЛАРУСІ (1861–1910 гг.)




Раёны адыходніцтва




Напрамкі адыходніцтва

Колькасць адыходнікаў на 100 сялянскіх двароў

Заўвага. Звесткі дадзены ў сучасных граніцах Рэспублікі Беларусь

Маштаб 1:8 000 000

# ПРАМЫСЛОВАСЦЬ І ГАРАДЫ БЕЛАРУСІ ў пачатку XX ст.

Пачатак XX ст. у прамысловасці Беларусі – перыяд крызісу і дэпрэсіі. У 1908 г. пачалося ажыўленне эканомікі, а з 1909 г. – уздым. За 1909–1913 гг. аб'ём вытворчасці на фабрычна-заводскіх прадпрыемствах павялічыўся на 129 працэнтаў. Развіццё прамысловасці ішло па шляху павелічэння канцэнтрацыі вытворчасці. У значныя прамысловыя цэнтры ператварыліся Мінск, Віцебск, Гомель, Пінск, Гродна, Бабруйск. Галіновая структура прамысловасці Беларусі заставалася амаль той жа, што і ў папярэдні перыяд. Найбольш высокія тэмпы развіцця назіраліся ў дрэваапрацоўчай вытворчасці. Хутка раслі таксама запалкавая, харчовая прамысловасць і выраб будаўнічых матэрыялаў.



# ШЛЯХІ ЗНОСІН БЕЛАРУСІ ў другой палове XIX – пачатку XX ст.

Вялікі ўплыў на гаспадарчае жыццё Беларусі аказала чыгуначнае будаўніцтва. У 1862 г. праз тэрыторыю Беларусі прайшла Пецярбургска-Варшаўская магістраль, у 1866 г. – Рыга-Арлоўская, у 1870-я гг. – Маскоўска-Брэсцкая і Лібава-Роменская. У 1880-я гг. пачала дзейнічаць сетка Палескіх чыгунак, з 1904 г. – магістраль Віцебск–Жлобін. Удасканалены былі таксама шашэйныя дарогі, рачны транспарт. На мяжы XIX–XX стст. з'явіўся гарадскі грамадскі транспарт. У 1892 г. пачала працаваць мінская конка; у 1898 г. пачаўся трамвайны рух у Віцебску, раней, чым у Маскве і Санкт-Пецярбургу. У 1896 г. Мінск – першы з беларускіх гарадоў – атрымаў тэлефонную станцыю грамадскага карыстання.

- Чыгункі
- 1871 Гады пабудовы асобных участкаў чыгунак
- Шашэйныя дарогі
- Асноўныя водныя шляхі
- Рачныя парты і прыстані
- Марскі порт
- Гарады, у якіх пачалі працу МІНСК конка, ВІЦЕБСК трамвай

**Маштаб 1:4 000 000**


Паравоз серыі О („авечка") пачатку XX ст.


Віленскі чыгуначны вакзал. Мінск


Упраўленне Лібава-Роменскай чыгункі. Мінск

# ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ (1914–1917 гг.). ЛЮТАЎСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ 1917 г. У БЕЛАРУСІ

## ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА

- Лінія фронту ў канцы 1914 г.

**Кампанія 1915 г.**

- Дзеянні германскіх войскаў у лютым–жніўні 1915 г.
- Становішча германскіх войскаў напярэдадні Свянцянскага прарыву на 26.VIII(8.IX) 1915 г.
- Напрамкі ўдараў германскіх войскаў у час Свянцянскага прарыву 27.VIII(9.IX)–19.IX(2.X) 1915 г.
- галоўныя сілы
- дапаможныя сілы
- Напрамкі контрудараў расійскіх войскаў у час ліквідацыі Свянцянскага прарыву
- Лінія фронту ў канцы 1915 г.
- 2(15).IX 1915 — Даты захопу гарадоў германскімі войскамі
- Тэрыторыя Расійскай імперыі, якая была акупіравана германска-аўстрыйскімі войскамі ў 1915 г.

Напрамкі ўдараў расійскіх войскаў

- у час Нарачанскай аперацыі 5(18)–15(28).III 1916 г. і іх адыход
- у час Баранавіцкай аперацыі 19.VI(2.VII)–16(29).VII 1916 г.
- у час ліпеньскага наступлення 1917 г. і іх адыход
- Лінія фронту, якая стабілізавалася ў канцы 1916 г.
- Тэрыторыя Расійскай імперыі, якая была вызвалена ў 1916 г.

**Кампаніі 1916–1917 гг.**

- Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага расійскай арміяй
- Штабы расійскіх Заходняга і Паўночнага франтоў
- Размежавальныя лініі паміж франтамі
- Штабы расійскіх армій у 1917 г.
- Штаб германскага Усходняга фронту
- Штабы Мінскай і Дзвінскай ваенных акруг
- Дагавор аб перамір'і 2(15).XII 1917 г.

**Маштаб 1:4 000 000**


Мікалай II

- Усходняя мяжа тэрыторыі Расійскай імперыі, на якой былі створаны германскія органы ваенна-адміністрацыйнага кіравання (акрэслівала германскія тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Расіі)
- Вышэйшы германскі орган ваенна-адміністрацыйнага кіравання на акупіраванай тэрыторыі – упраўленне „Обер-Ост"
- ВПК — Паўночна-Заходні абласны ваенна-прамысловы камітэт (створаны ў ліпені 1915 г., потым пераведзены ў Петраград)
- Беларускае таварыства дапамогі ахвярам вайны (з сакавіка 1915 г.)
- БНК — Беларускі народны камітэт (з 1915 г.)
- Прадпрыемствы і майстэрні па рамонту і вытворчасці зброі і ваеннай тэхнікі
- Майстэрні па рамонту ваеннага абмундзіравання
- ПІНСК — Гарады, з якіх была праведзена эвакуацыя прамысловасці
- Асноўныя напрамкі эвакуацыі беларускага насельніцтва
- Паўстанне Гомельскага перасыльнага пункта

## ЛЮТАЎСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

- 3(16).III 1917 — Даты змены ўлады ў губернскіх цэнтрах
- 4(17).III 1917 — Даты стварэння першых Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў у Беларусі
- Выканаўчы камітэт Заходняга фронту (з красавіка 1917 г.)
- Рух войскаў у час карнілаўскага мяцяжу (25–31.VIII 1917 г.) і месцы яго падаўлення
- I, II — З'езды беларускіх палітычных партый і арганізацый: I – 25–27.III (7–9.IV) 1917 г., II – 8–12 (21–25) VII 1917 г.
- Будслаў — Важнейшыя цэнтры беларускага нацыянальнага руху

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ СКЛАД І СТРУКТУРА НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ І СУМЕЖНЫХ ТЭРЫТОРЫЙ у канцы XIX ст. (1897 г.)



# КАНФЕСІЙНАЯ СТРУКТУРА НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ (1897 г.)

Большасць насельніцтва беларускіх губерняў (63,5%) складалі беларусы, 14,1% – яўрэі, 5,8% – рускія, 5,0% – палякі. Шматлікія палітычныя фактары, стракатасць этнічнай і канфесійнай структуры насельніцтва Беларусі шмат у чым вызначылі працэсы фарміравання яго этнічнай самасвядомасці, станаўлення беларускай нацыі. Многія стагоддзі на тэрыторыі Беларусі пражывалі супольна прадстаўнікі розных канфесій: праваслаўныя, каталікі, пратэстанты, іўдзеі, магаметане і іншыя. Гэта значна адбівалася на складванні ўзаемаадносін сярод насельніцтва.








Сабор у гонар Уваскрасення Хрыстовага. Барысаў


Касцёл Найсвяцейшай Тройцы. Глыбокае


Сінагога. Барысаў


Мячэць. Іўе


Кірха. Полацк



# МЕЖЫ РАССЯЛЕННЯ БЕЛАРУСАЎ. БЕЛАРУСКІЯ ГАВОРКІ пачатку XX ст.

У XIX – пачатку XX ст. адбываецца станаўленне новай беларускай літаратурнай мовы. Яна складвалася на аснове жывых народных гаворак, без прадаўжэння старажытных пісьмовых традыцый. Беларускія пісьменнікі шырока ўводзілі ў літаратурны ўжытак граматычныя і лексічныя асаблівасці сваіх родных гаворак. У выпрацоўцы норм і ўзбагачэнні літаратурнай мовы вялікую ролю адыгралі Я. Купала, Я. Колас, Цётка, М. Багдановіч і інш. Да сярэдзіны XIX ст. адносяцца першыя спробы стварэння граматыкі беларускай мовы. Аднак граматыкі, складзеныя П. Шпілеўскім (1846 г.) і К. Надзвецкім (1854 г.), засталіся ў рукапісах. Пачынальнікам сучаснага беларускага мовазнаўства стаў Я. Карскі.

У другой палове XIX ст. беларусы сталі аб'ектам павышанай цікавасці з боку расійскіх і замежных даследчыкаў, якія сабралі і апублікавалі ўнікальныя матэрыялы пра мову і духоўную культуру народа. Яны засведчылі існаванне самастойнага беларускага этнасу.


Я. Карскі. Здымак


М. Доўнар-Запольскі. Здымак

24° на ўсход ад Грынвіча
Рыжскі заліў
Ліфляндская губерня
Пскоўская губерня
Цвярская губерня
Курляндская губерня
Віцебская губерня
Смаленская губерня
Ковенская губерня
Віленская губерня
Мінская губерня
Гродзенская губерня
Магілёўская губерня
Сувалкаўская губерня
Ломжынская губерня
Седлецкая губерня
Люблінская губерня
Валынская губерня
Кіеўская губерня
Чарнігаўская губерня
Палтаўская губ.
Калужская губерня
Арлоўская губерня
Наўгародская губерня
ГЕРМАНСКАЯ ІМПЕРЫЯ
РАСІЯ
РЫГА
МІТАВА
КОЎНА
ВІЛЬНЯ
ГРОДНА
СУВАЛКІ
ЛОМЖА
ВАРШАВА
СЕДЛЕЦ
МІНСК
ВІЦЕБСК
СМАЛЕНСК
МАГІЛЁЎ
ЧАРНІГАЎ
КІЕЎ
Вендэн
Тукум
Фрыдрыхштат
Бауск
Рэжыца
Люцын
Дзвінск
Ілукст
Шаўлі
Панявеж
Новааляксандраўск
Расіены
Вількамір
Юрбург
Тыльзіт
Свянцяны
Ашмяны
Вілейка
Лепель
Дзісна
Дрыса
Полацк
Гарадок
Себеж
Невель
Вялікія Лукі
Апочка
Востраў
Наваржэў
Холм
Таропец
Асташкаў
Белы
Веліж
Парэчча
Духаўшчына
Дарагабуж
Ельня
Рослаўль
Красны
Горкі
Мсціслаў
Сянно
Орша
Барысаў
Шклоў
Чавусы
Чэрыкаў
Клімавічы
Мглін
Сураж
Старадуб
Навазыбкаў
Ігумен
Бабруйск
Рагачоў
Стары Быхаў
Гомель
Новая Беліца
Рэчыца
Лоеў
Гародня
Мазыр
Пінск
Слуцк
Стоўбцы
Навагрудак
Ліда
Слонім
Ваўкавыск
Саколка
Беласток
Аўгустаў
Бельск
Пружаны
Кобрын
Брэст-Літоўск
Ковель
Уладзімір-Валынскі
Луцк
Навагад-Валынскі
Оўруч
Асцёр
Нежын
Борзна
Сосніца
Прылукі
воз. Селігер
воз. Нарач
воз. Снярды
Нёман
Нямунас
Лавуэ
Вілія
Бярэзіна
Днепр
Сож
Дзясна
Прыпяць
Стыр
Гарынь
Заходняя Дзвіна
Ловаць
Волга
Буг
56°
52°
28°
32°
1

**Межы рассялення беларусаў**

- Паводле А. Рыціха (1875 г.)
- Паводле Я. Карскага (1903 г.)
- Паводле М. Доўнар-Запольскага (1919 г.)

Межы дзяржаў і губерняў Расійскай імперыі дадзены на пачатак XX ст.

Лічбай 1 на карце пазначана Аўстра-Венгерская імперыя

**Беларускія гаворкі пачатку XX ст.**

- Мяжа беларускіх гаворак паводле этнаграфічнай карты „беларускага племені", складзенай Я. Карскім (1903 г.)
- Мяжа беларускай мовы паводле дыялекталагічнай карты рускай мовы ў Еўропе, складзенай Маскоўскай дыялекталагічнай камісіяй (1914 г.)
- Паўночна-ўсходні дыялект
- Паўднёва-заходні дыялект
- Сярэднебеларускія гаворкі

**Маштаб 1:5 000 000**



# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ ў другой палове XIX – пачатку XX ст.

У сферы асветы і культуры Беларусі ў другой палове XIX ст. адбываецца ўмацаванне афіцыйных расійскіх пазіцый. Пачатковыя школы знаходзіліся пад значным уплывам праваслаўнай царквы. Умацаванню ўрадавай лініі ў навучальных установах павінны былі служыць настаўніцкія семінарыі. Пашыралася сетка навучальных устаноў, у пачатку XX ст. атрымала развіццё прафесійная адукацыя. Адбываецца станаўленне новай беларускай літаратуры, звязанай з творчасцю Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны і інш. У пачатку XX ст. раскрыліся літаратурныя таленты Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і інш. Адбываецца станаўленне беларускага прафесійнага тэатра, з'яўляецца легальны нацыянальны друк, інтэнсіўна развіваецца грамадска-культурнае жыццё. У выяўленчым мастацтве пануе ў гэты час рэалістычны жанр, у архітэктуры – эклектыка, звязаная са спалучэннем розных стыляў.


Гарадскі тэатр. Мінск


„Вечар над возерам". В. К. Бялыніцкі-Біруля


Я. Колас у маладосці. Здымак


Капліца князёў Паскевічаў. Гомель

Навучальныя акругі і іх межы
- Віленская (1850–1864 гг.)
- Пецярбургская (1850–1864 гг.)
- Віленская (з 1864 г.)

ВІЛЬНЯ Цэнтр Віленскай навучальнай акругі

Філіял Маскоўскага археалагічнага інстытута

Настаўніцкія інстытуты

Настаўніцкія семінарыі

Духоўныя семінарыі

Фельчарска-акушэрскія школы і зубалячэбныя школы (Мінск)

Гімназіі і прагімназіі і іх колькасць у населеным пункце

Кадэцкі корпус

Навуковыя таварыствы
- педагагічныя
- медыцынскія
- сельскагаспадарчае
- іншыя

Перыядычныя выданні
- дзяржаўныя
- якія друкаваліся на беларускай мове

Тэатры
- народныя
- аматарскі І. Буйніцкага

Беларускі музычна-драматычны гурток А. Бурбіса

Першае беларускае таварыства драмы і камедыі Ф. Ждановіча (Мінск, 1917 г.)

Музей старажытнасцей

Помнікі архітэктуры, якія былі пабудаваны ў другой палове XIX – пачатку XX ст.
- псеўдарускі стыль
- неаготыка
- мадэрн

**Маштаб 1:4 000 000**

# ЗМЕСТ

На першай старонцы вокладкі размешчаны:
літаграфія сярэдзіны XIX ст. „Віленскі ўніверсітэт"; фота Я. Купалы, 1908 г.;
фрагмент першага нумара газеты „Наша Доля"; помнік Н. Ордзе ў г. Іванава.

На апошняй старонцы вокладкі размешчаны:
малюнак Н. Орды „Мястэчка Свіслач Гродзенскай губерні"; літаграфія
сярэдзіны XIX ст. „Экспазіцыя Віленскага музея старажытнасцей";
партрэты:
паэт У. Сыракомля, мастак Ф. Смуглевіч, мастак Я. Дамель, мастак В. Ваньковіч;
фотаздымкі:
гісторык і археолаг Т. Нарбут; стваральнік Віленскага музея старажытнасцей
Я. Тышкевіч; этнограф, гісторык і выдавец А. Кіркор; паэт і драматург
В. Дунін-Марцінкевіч.

Вучэбнае выданне

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ**
**канец XVIII – пачатак XX ст.**

**Атлас**

**Вучэбны дапаможнік для 9 класа**
**ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі**
**з беларускай мовай навучання**

Рэдактары: Г. С. Малышава, Л. А. Чарнышова
Мастацкае афармленне А. С. Хацеева
Тэхнічны рэдактар Н. М. Шэвель

Падпісана да друку 13.05.2016. Фармат паперы 62x92 1/8
Папера афсетная. Друк. арк. 3,0. Умоўн. друк. арк. 3,2
Тыраж 10 000 экз. Заказ №16/099

РУП „Белкартаграфія".
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў №1/30 ад 19.08.2013.
Пр. Машэрава, 17А, 220029, Мінск.
Тэл./факс: (017) 284-71-59, 334-81-54
www.belkarta.by
www.белкартография.бел
E-mail: belkartograf@yandex.by

СП „Паліграфхаўз" ТАА.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў №2/77 ад 19.03.2014.
Вул. Якубоўскага, 51, 220018, Мінск.

